БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

29 снежня 1994 г.
Чацвер
№ 140(13857)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдавецца з 1921 года



– След снежнага чалавека!
– Гэта мой кум. Ніяк не можа купіць абутак...

Малюнак Яна БУСЛА.

*У Мінску, у акрабатычнай зале таварыства "Працоўныя рэзервы", прайшоў міжнародны турнір па акрабатыцы, прысвечаны 50-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.*

*У спаборніцтвах аспрэчвалі першынство спартсмены з Вялікабрытаніі, Польшчы, Германіі, Беларусі, Літвы, Малдовы, Расіі, гарадоў Масквы і Санкт-Пецярбурга.*

*Найбольшую колькасць узнагарод заваявалі нашы акрабаты.*

*НА ЗДЫМКУ: пераможцы спаборніцтваў сярод мужчынскіх пар— брастаўчане Сяргей Глушчук і Анатоль Шыбун.*

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Прэзідэнт сустрэўся з моладдзю

*У панядзелак адбылася сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый. У ёй таксама прынялі ўдзел кіраўнікі выканаўчай улады абласцей, міністры. Размова тычылася сённяшніх праблем маладога пакалення, будучага развіцця дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі.*

Як адзначыў А.Лукашэнка, гэты дыялог важны і працяг яго актуальны, бо будучыня ў многім залежыць ад тых юнакоў і дзяўчат, што сабраліся ў вялікай зале Савета Міністраў. Кіраўнік дзяржавы лічыць, што фінансаванне мерапрыемстваў у галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі павінна мець прыярытэтнае значэнне. Нават з рэзерву ўрада могуць быць знойдзены сродкі на гэтыя мэты. Для падтрымкі моладзі трэба шукаць самыя спрыяльныя варыянты.

Пад час сустрэчы Прэзідэнт адказаў на шматлікія пытанні аўдыторыі.

Па выніках размовы мяркуецца выдаць прэзідэнцкі ўказ, які арыенціровачна будзе называцца "Аб першачарговых мерах у галіне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі".

**Вольга ШАЎКО.**

### Вадзіцелі запатрабавалі павышэння зарплаты

*27 снежня пасля 9 гадзін раніцы мінчане, якія выйшлі з дому, апынуліся ў экстрэмальнай сітуацыі — спыніўся рух аўтобусаў па гораду.*

Вадзіцелі прадпрыемства Мінскпасажыраўтатранс аб'явілі забастоўку да 13 гадзін. На шчасце, працаваў электратранспарт, і натоўпы пасажыраў пачалі асаджаць перапоўненыя тралейбусы. Асабліва дасталося мінчанам, якія жывуць у аддаленых ад цэнтра мікрараёнах, дзе пераважае аўтобусны рух.

Што ж прымусіла вадзіцеляў пайсці на такую акцыю? На дадзенае пытанне карэспандэнту Белінфарма адказалі ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама.

Аказваецца, асноўным матывам забастоўкі стала патрабаванне павышэння заработнай платы. Справа ў тым, што для прадпрыемстваў транспарту прымяняецца паправачны каэфіцыент да мінімальнай зарплаты 1,15. Гэта значыць, тарыф першага разраду тут роўны 25300 рублёў. Транспартнікі палічылі яго недастатковым і запатрабавалі ўстанавіць паправачны каэфіцыент у памеры 1,75, што дало б магчымасць павялічыць мінімальны тарыф да 38500 рублёў. Як падлічылі ў Мінгарвыканкаме, гэта выклікае неабходнасць адшукаць з бюджэту рэспублікі 4021,9 мільёна рублёў. Дзе ўзяць цяпер такія грошы? Гэтага пакуль не ведае ніхто.

Зразумела, у дадзенай сітуацыі ўзнікае нямала няпростых пытанняў. Напрыклад, колькі ж атрымліваюць цяпер вадзіцелі гарадскіх аўтобусаў? Аказваецца, за лістапад у сярэднім іх зарплата склала 420 тысяч рублёў, а сярэдняя па прадпрыемствах "Мінскпасажыраўтатранса" — 337,4 тысячы рублёў.

Ужо да 12 гадзін дня былі падлічаны "вынікі" забастоўкі. Нанесеныя гораду страты склалі каля 90,9 мільёна рублёў. А хто можа суміраваць выдаткі гараджан, якія спазніліся па віне транспартнікаў на паязды, самалёты ды і проста па сваіх асабістых справах?

Адметна ў гэтай сітуацыі і тое, што, як паведамілі ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама, з юрыдычнага пункту гледжання забастоўка выглядае як бы незаконнай, паколькі ў перыяд яе арганізацыі і аб'яўлення быў дапушчаны шэраг парушэнняў. Але, як кажуць, справа зроблена.

Цяпер слова за тымі, да каго былі звернуты погляды бастуючых.

### Каб ведалі і помнілі

*Імя Францыска Скарыны прысвоена адной з новых вуліц у Навагрудку.*

Такое рашэнне мясцовыя ўлады прынялі па прапанове створанай пры гарвыканкаме тапанімічнай камісіі. Адначасова яшчэ пяць новых вуліц горада атрымалі імёны нашых славутых землякоў: Іаахіма Храптовіча, Уладзіслава Сыракомлі, Ігнація Дамейкі, Уладзіслава Дыбоўскага, Янкі Неманскага. Апошні быў ураджэнцам Навагрудчыны і загінуў у гады сталінскіх рэпрэсій. Яшчэ адна вуліца носіць імя сусветна вядомага польскага кампазітара Міхаіла Агінскага, біяграфія якога цесна звязана з цяперашняй Гродзеншчынай.

**БЕЛІНФАРМ.**

### А без вады...

*Толькі тры дні ў тыдзень маюць гарачую ваду ў сваіх кватэрах жыхары Асіповіч.*

Справа ў тым, што гарадская казна амаль пустая. І таму месяц назад у гарвыканкаме вырашылі даваць гарачую ваду гараджанам чатыры разы на тыдзень. Але недахоп грошай праз некаторы час прымусіў скараціць графік.

**Іван СЦЯПУРА.**

### Будзем з ёлкамі

*Набліжаецца Новы год, і лясніцтвы рыхтуюцца да навагодняй кампаніі.*

У Мінску, напрыклад, арганізаваны гандаль пушыстымі прыгажунямі ў дзесяці кропках — каля кінатэатра "Кіеў", на плошчы Казінца, у мікрараёне Шабаны, каля ўнівермага "Беларусь" і ў іншых месцах.

**М.ВАСІЛЕЎСКІ.**

### Прачыталі раней

*на 49 гадоў сімвалічнае пісьмо жыхарам Карманшчыны, якое летась заклалі ўдзельнікі святкавання 50-годдзя вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, невядомыя.*

Іх зацікавіў, як вы і зразумелі, не змест паслання нашчадкам, а капсула з бронзы, якая была замуравана ў бетонную пліту на вайсковым мемарыяле ў в. Касцюкоўцы.

### А студэнты смяюцца

*Час такі зараз, што не да смеху. Але студэнты Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны, не звяртаючы ні на што ўвагі, смяюцца самі і пацяшаюць іншых.*

Тэатр эстрадных мініяцюр, створаны тут 10 гадоў назад, нядаўна адзначыў свой сціплы юбілей. Адзначыў шырока і весела — разам з гамяльчанамі смяяліся артысты студэнцкіх тэатраў з Мінска, Бранска і Чарнігава.

**Васіль БАРХАНАУ.**

### Курсы валют на 28 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 9600 | 10000 | 6048 | 6340 |
| "Прыор" | 10000 | 10500 | 6340 | 6600 |
| "Белбізнес-банк" | 9800 | 9700 | 6145 | 6200 |

**"ПАС" — палітыка-аналітычная служба**

## ЦЭЗУРА

*Тыдзень перад каталіцкімі Калядамі ў найноўшай беларускай гісторыі, па ўсёй верагоднасці, будзе стаяць асабняком. У святцах нашага часу яго храналагічныя адметы можна параўноўваць з цэзурай. Своеасаблівая паўза, узнікшая ў тым ліку і на старонках перыёдыкі ў выглядзе белых палос і калонак на месцах вядомага даклада С.Антончыка, вызначыла ход развіцця падзей.*

Цяжка гаварыць аб нейкім кардынальным уплыве на сітуацыю беспрэцэдэнтных фактаў нявыхаду ў свет па палітычных матывах буйнейшых рэспубліканскіх газет або выхаду іх з "цэнзурнымі клішэ", аднак, безумоўна, рэха вымушанага маўчання доўга яшчэ будзе, як ні дзіўна, чуваць не толькі ва ўладных апартаментах. Узрушэнні ў калідорах "чацвёртай улады" працягваюцца, па сутнасці яны сталі люстраным адбіткам калізій, звязаных з функцыяніраваннем галін улады, так бы мовіць, сапраўднай, маючай дзяржаўныя рычагі кіравання. Распачынаўся перадкалядны тыдзень даволі трыдцыйна. На чарговыя пленарныя пасяджэнні сабраліся дэпутаты. XVI сесія парламента працягвала работу згодна з рэгламентам. Не з'яўлялася сакрэтным і кола пытанняў, якія планаваліся да разгляду. Але аўторак у Авальнай зале ўсё ж, здаецца, стаў для прэзідэнцкай каманды "чорным". Хаця да падобнага "эфекту бумеранга" з нагоды абнародавання ў ВС даклада прадстаўніка апазіцыі можна было падрыхтавацца і больш адэкватна, прынамсі, не рабіць шэрагу памылковых дзеянняў і рухаў пасля зачытвання "карупцыйнага кампрамату". Між тым, факт застаецца фактам: памылкі зроблены. Пытанне ў тым, наколькі зграбна ўлада ў стане зменшыць іх эфектыўнасць, уздзеянне на далейшы ход падзей.

Сяргей Антончык выступіў з дакладам, за чым паследавалі заявы аб адстаўках (дарэчы, прэзідэнтам не прынятых) і экспромтная прамова самога Аляксандра Рыгоравіча. Яе магчыма лічыць даволі паказальным узорам удалага экспромту, аднак тое, што назіралася пазней, калі і можна назваць экспромтам, дык ніяк не ўдалым. Прэса, бадай, упершыню ва ўмовах адноснай галоснасці выканала партыю "прымы" на палітычнай авансцэне. На другі план адышлі нават куды больш значныя падзеі, напрыклад, візіт Лукашэнкі ва Узбекістан і інш. Безумоўна, яны непараўнальныя па маштабах з тымі, якія ўзрушалі грамадства на мінулым тыдні і працягваюць узрушаць. Але ўлада не ўзяла ў разлік фактар палітычнай, дакладней, палітызаванай свядомасці самых шырокіх слаёў насельніцтва. У выніку яна атрымала тое, што атрымала. Паўторым, на другі план адышлі захады яе выканаўчай галіны па магчымай стабілізацыі і ўтаймаванню эканамічнага крызісу. На першы выйшлі палітычныя ўзрушэнні, якія лагічна можна параўноўваць з таксама крызіснымі з'явамі. Прычым, праблема ўзнікла літаральна на роўным месцы. Цяпер яна набыла сапраўды эфект бумерангу. Карупцыя — той Сфінкс, з якім змагаўся і змагаецца прэзідэнт, што і дапамагло яму ў свой час перамагчы на выбарах. Сёння эстафету ў Лукашэнкі, падаецца, перахапіла апазіцыя. Наўрад ці каго ўсур'ёз цікавіць дакладнасць фактаў, прыведзеных у дакладзе былога паплечніка Аляксандра Рыгоравіча па працы ў антыкарупцыйнай камісіі дапрэзідэнцкіх часоў. Для масавай свядомасці важна іншае: улада чагосьці апасаецца. Значыць, няма дыму без агню. Такога непажаданага для прэзідэнцкага акружэння нагнятання напружанасці проста было пазбегнуць, даўшы сродкам масавай інфармацыі магчымасць менавіта інфармаваць сваіх чытачоў. Высновы кожны б рабіў самастойна. Часовы вакуум у прэсе на парадак узняў "вартасць" дакладных пастулатаў. Нават, калі браць у разлік дастаткова сціплы ўзровень айчыннай публічнасці, стварыць колькі-небудзь адэкватную і поўную блакаду вакол падзей немагчыма. Тым больш, падзеі, сведкамі якой сталі сотні людзей у Авальнай зале. Хаця прэзідэнт, выступаючы ў аўторак перад вялікім дзённым перапынкам на сесіі, і "папярэдзіў" прадстаўнікоў СМІ: думайце, як асвятляць антыкарупцыйную імпрэзу ў новым "апазіцыйным" выданні, прагназіраваць наступныя крокі ўлады, звязаныя з мерамі забароннага характару, было зноў-такі цяжка. Мабыць, сваю ролю адыграла наслаенне акалічнасцей адна на адну, іх спрасаванасць, урэшце, адсутнасць прэзідэнта ў рэспубліцы пад час далейшага развіцця сітуацыі. Яна пакуль пакідае больш пытанняў, чым дае на іх адказаў. Справа нават не ў персаналіях, пацярпеўшых ужо і, верагодна, занесеных у спісы патэнцыяльных "ахвяр" галоснасці, справа ў нечым большым. Словы прэзідэнта, сказаныя ў ліпені аб тым, што "з гэтага дня прэса можа лічыць сябе свабоднай", здаецца, не прайшлі выпрабавання спрасаваным часам. Такім чынам, праз тыднёвы хронас "чырвонай ніткай" працягнулася парламенцкая тэма. Вядома, сесія разглядала блокі пытанняў, але прэваліравалі сярод астатніх "антыкарупцыйныя". Шэсце да вышынь незалежнай публічнасці першай распачала "Советская Белоруссия" (яна першай і пацярпела), за ёй — "Звязда", "Рэспубліка" і г.д. Агульная карціна, што называецца, набыла галосную аблямоўку. Парламент перманентна вяртаўся да праблемы. Асноўныя страсці кіпелі вакол уяўных цэнзарскіх нажніц. Хто канкрэтна аддаваў каманды на забарону публікацыі даклада Антончыка або арышт асобных выданняў — ведаць гэта жадалі многія, ведалі — выбраныя. ВС сваё слова сказаць здолеў. Тым часам страсці вакол "цэнзуры" працягвалі напальвацца. Іх эпіцэнтр на нейкі час перамяшчаўся ў кабінет галоўнага рэдактара "Советской Белоруссии", дзе прайшлі прэс-канферэнцыі, таксама меўшыя гучны рэзананс. Як і заява галоўных рэдактароў вядучых беларускіх выданняў, якую не падпісаў толькі Іосіф Сярэдзіч. Між тым сваё слова сказаў і прэзідэнт. Пазаўчора ён выступіў у прамым тэлерадыёэфіры. Думаецца, яго ная прамова запомніцца гледачам і слухачам. 31-га, напярэдадні Новага года, Аляксандр Рыгоравіч зноў звернецца да беларускага народа і, напэўна, паспрабуе нейкім чынам прыўзняць святочны настрой людзей. У аўторак прэзідэнцкае выступленне наўрад ці палепшыла і прыўзняло настрой у грамадстве. Яно даволі аб'ёмнае, кіраўнік дзяржавы ставіў перад сабой мэту — прааналізаваць сацыяльна-эканамічную і палітычную сітуацыю ў рэспубліцы. Што цалкам зразумела. Трэба сказаць, аналітычна-ацэначны ўзровень размовы, як дарэчы, і заўсёды адэкватна адпавядаў рэаліям, у ёй нямала тых "жамчужных зярнят", якія ўспрымаюцца станоўча. Аднак дакладнасць многіх канстатацый, дэманстрацыя і разуменне сучасных працэсаў, і, мабыць, бліскучай палітычнай інтуіцыі ў пэўнай ступені "пацярпелі" ад агульнай танальнасці (тут успамінаецца гістарычна-сакраментальнае: Карфаген павінен быць разбураны). Не ўяўляецца тайнай за сямю пячацямі — у прэзідэнта багата апанентаў -антаганістаў. У агляднай будучыні іх стане больш па трывіяльнай прычыне: выбары ў новую парламенцкую асамблею адбудуцца 14 мая. Па сутнасці, яны не сёння і не ўчора распачалі ўжо аказваць далёка не лакальны ўплыў на грамадства. Справа ў іншым. Для лакалізацыі палітызаваных страсцей патрабуецца больш "тонкая" тактыка. І стратэгія. Адзін місіянерскі бляск у вачах і прамовах нельга лічыць дастатковай перадумовай новых перамог. Адчуваецца патрэба менавіта ў дзяржаўнай маштабнасці, бо зацыкліванне на дробязях і асабістых сімпатыях-антыпатыях — незайздросная доля якраз апазіцыі. Яе здань нельга "рээкспартаваць" ва ўладныя палацы.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

## На чыім сумленні белыя плямы

Прафесійны абавязак журналіста — даваць людзям праўдзівую і аб'ектыўную інфармацыю. Выконваць яго з кожным днём становіцца ўсё цяжэй — гэта звязана з рызыкай для жыцця і здароўя як саміх журналістаў, так і блізкіх ім людзей. Тым не менш, мы заўсёды будзем выконваць наш галоўны маральны закон — чэсна і праўдзіва пісаць гісторыю сучаснасці.

Вызваліўшыся ад ціскоў партыйнага дыктату, беларуская прэса так і не змагла набыць свабоду і незалежнасць. Беспрэцэдэнтныя факты выхаду 23 снежня газет "Советская Белоруссия", "Звязда", "Рэспубліка" з белымі плямамі замест даклада Сяргея Антончыка, нявыхаду "Народнай газеты", якая спрабавала апублікаваць стэнаграму сесіі Вярхоўнага Савета пра карупцыю ў камандзе прэзідэнта, сведчаць аб увядзенні жорсткай палітычнай цэнзуры, дэспатызме ўлад, грубым папіранні канстытуцыйных нормаў і правоў у горшых традыцыях таталітарызму. Вызваленне ад займаемай пасады галоўнага рэдактара газеты "Советская Белоруссия" Ігара Асінскага Указам прэзідэнта ў аднабаковым парадку без узгаднення з паўнапраўным заснавальнікам — працоўным калектывам рэдакцыі — грубейшае парушэнне статута рэдакцыі.

Мы мяркуем, што Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь можа даць належную ацэнку гэтаму ўказу, які парушае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а пракуратура высветліць, на чыім сумленні гэтыя белыя плямы ганьбы на старонках агульнанацыянальных беларускіх газет. Надзвычайнае становішча, якое ўзнікла ва ўзаемаадносінах сродкаў масавай інфармацыі з уладай, прымушае нас аб'яднаць намаганні для барацьбы за свабоду слова, дэмакратыю, права кожнага чалавека на свабоднае атрыманне інфармацыі.

Мы звяртаемся да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які аб'ектыўна ацаніў апошнія падзеі ў сродках масавай інфармацыі Беларусі, з просьбай аб хутчэйшым прыняцці Закона аб друку, ліквідацыі манапалізму выканаўчай улады на "Беларускі Дом друку" — буйнейшую паліграфічную базу Беларусі.

З намі салідарны Міжнародная канфедэрацыя журналісцкіх саюзаў, Міжнародная федэрацыя журналістаў, у якія ўваходзіць Саюз журналістаў Беларусі на паўнапраўнай аснове.

Мы спадзяёмся, што нас падтрымаюць і нашы чытачы.

Улада слова — гэта ўлада праўды. А перад праўдай, як перад сумленнем, мы ўсе ў адказе.

**Леанід ЕКЕЛЬ — старшыня Саюза журналістаў Беларусі;**
**Уладзімір БЕЛЬСКІ — галоўны рэдактар газеты "Чырвоная змена";**
**Міхаіл КАЦЮШЭНКА — галоўны рэдактар газеты "Знамя юности";**
**Мікалай КЕРНОГА — галоўны рэдактар газеты "Рэспубліка";**
**Уладзімір НАРКЕВІЧ — галоўны рэдактар газеты "Звязда";**
**Ігар АСІНСКІ — галоўны рэдактар газеты "Советская Белоруссия";**
**Міхаіл ШЫМАНСКІ — галоўны рэдактар газеты "Белорусская нива".**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"

### ЗША СУПРАЦЬ БАКТЭРЫЯЛАГІЧНАЙ ЗБРОІ

*Злучаныя Штаты выдаткавалі 125 мільёнаў даляраў для барацьбы з вытворчасцю бактэрыялагічнай зброі.*

Паводле звестак амерыканскіх разведвальных служб, стварэннем бактэрыялагічнай зброі зараз могуць займацца 12 краін, у тым ліку такія дзяржавы, як Расія, Кітай, Ірак, Паўночная Карэя, Тайвань.

### "ХАМАС" ЗНОЎ У ТЭРАРЫСТАХ

*Палесцінская экстрэмісцкая групоўка "Хамас" зноў абвінавачваецца ў злачынстве.*

На аўтобусным прыпынку Іерусаліма была ўзарвана бомба, у выніку чаго загінула 12 чалавек. Тэрарыст, які кінуў бомбу, — выхадзец з Сектара Газа.

### КАЛЯДНАЯ ПРАМОВА

*У дзень Калядаў Іаан Павел II выступіў з прамовай.*

Ён заклікаў усіх людзей да цярплівасці, скончыць з дыскрымінацыяй, эгаізмам і абыякавасцю. Папа Рымскі абвінаваціў шмат якіх палітыкаў у намаганнях прыйсці да ўлады шляхам гвалту і звярнуўся да народаў свету з пажаданнем братэрскай згоды.

### "ПАЛЯЦЕЛІ" З ПАСАД

*7 чалавек зняты з пасад, выключаны з кампартыі і арыштаваны —такія меры былі прыняты ў дачыненні службовых асоб тэатра "Дружба", у якім успыхнуў пажар.*

Трагедыя ў Кітаі, як высветлілася, адбылася з-за кароткага замыкання электраправодкі. З 325 чалавек, якія згарэлі, 288 — школьнікі. Адказныя супрацоўнікі "Дружбы" абвінавачаны ў нядбайнасці, а па ўсёй краіне, згодна прынятай пастанове кітайскіх улад, пачнуцца масавыя праверкі супрацьпажарнай бяспекі грамадскіх устаноў.

### КРЫВАВАЯ ДЫВЕРСІЯ

*У Алжыры тэрарысты захапілі самалёт, які адпраўляўся ў Парыж.*

Захопнікі патрабавалі выляцець у Францыю, іх заложнікамі сталі 172 пасажыры. Тры пасажыры былі забіты. Пасля забойства трэцяга заложніка — прадстаўніка французскага пасольства ў Алжыры, алжырскі прэзідэнт даў дазвол на вылет.

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

